Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 15 Чацьвер, 21 Жніўня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злот...
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Жрэц беларускае культуры

*(... пятыя угодкі сьмерці Івана Луцкевіча).*

20-га гэтага жніўня споўнілася роўна пяць гадоў з таго часу, як на вечны адпачынак адыйшоў ад беларускага руху Іван Луцкевіч, пакінуўшы па сабе сьветлую памяць у душах як свайго, так і малодшага беларускага пакаленьня.

Па ім застаўся вялікі сьлед на шляху беларускага адраджэньня, на які ён калісьці выйшаў сьмела блізка што адзін.

Старанліва сабраны нябожчыкам беларускі музэй у Вільні зьяўляецца вечным памятнікам яго ідэйнага служэньня ідэалу беларускае культуры. Пакаленьні беларусаў зьменяцца адно за адным, але ніводзін праўдзівы сын нашага народу ніколі ня пройдзе міма памяці аб тым, хто сапраўды ахвярна служыў беларускай культуры так, як ня служыць хіба ніводзін жрэц свайму куміру. Зьместам яго жыцьця было зьбіраньне вечна каштоўных памяткаў слаўнае беларускае мінуўшчыны і адначасна каваньне роднае, новае культурнае творчасьці.

Да кожнага поэтыцкага таленту, да кожнага новага сябра па шляху Беларускага Рэнэсансу, ў час дзікае маскалізацыі краю й народу, Іван Луцкевіч падходзіў, як да нейкае далікатнае рэчы; нязвычайнаю ведаю ўва ўсіх галінах беларускае старадаўняе культуры запальваў сэрцы маладых, выходзіўшых з сялянскіх нетраў, народных талентаў, карыстаючыся заслужанай пашанаю сярод ўсяго краёвага грамадзянства. Ён ня мог быць далёкім і ад палітычнага руху беларускага, але тут яго чыстая душа толькі дарэмна мучылася. Бо разумеў ён, што для тае ці іншае палітыкі патрэбна нейкая рэальная сіла, а сіла гэтая служыла чужацкай культуры, свая родная культура толькі яшчэ пачынала прабуджацца ад векавога летаргічнага сну. Затое, будучы сам досыць радыкальных палітычных перакананьняў, нябожчык Іван умеў знайсьці агульную мову з якім-бы ні было поўным процілежнікам сваім па перакананьнях.

Бо меў душу, поўную нявымоўнае, нязьмеранае цярпімасьці да чалавечых паглядаў.

Іван Луцкевіч быў чужы для ўсякае вузкае партыйнасьці. Ён хварэў і кідаў громы, калі пачыналася ўнутранная міжыбеларуская калатня, і заўсёды яму ўдавалася зьліваць у адно самыя дзівачныя контрасты: два розныя лагеры ў Менску падчас нямецкае окупацыі — гэта Рада Рэспублікі з аднаго боку і Беларускае Народнае Прадстаўніцтва з другога — ніколі не дайшлі-б да паразуменьня, калі-б ня было гэткае крыштальнае душы, якую меў нябожчык Іван, у якой, як у цудоўнай прызьме сходзіліся й ламаліся розныя кірункі, перакананьні, орыентацыі, як групаў, так і адзінак, кожная пасвойму разумеўшых тактычныя хады беларускае палітыкі.

І калі быўшая Рада Рэспублікі, як концэнтр беларускага палітычнага руху, паўстала стыхійна з віхру Рэвалюцыі, дык толькі дзякуючы Івану Луцкевічу, яна набрала чыста-нацыянальнага зьместу, а са зьместам гэтым сам сабою нарадзіўся нацыянальны ідэал, да якога бязумоўна імкнецца Беларускі Народ, а ня то, што нейкія інтэлігэнцкія гурткі.

І дзіўна! Гісторыя неўмаліма ступае цяжкімі крокамі, адсоўваючы ў туман будучыны беларускі нацыянальны ідэал — самастойнасьць Народу і непадзельнасьць яго, — гурткоўшчына плодзіцца, як пошасны мікроб, служэньне вялікай нацыянальнай багіні, імя якой Культура, перастае быць місіяй нашае інтэлігэнцыі, бяздарнасьці выплываюць на палітычную арэну беларускага руху, заслужаныя дзеячы адходзяць недзе ўбок, мешчанеюць, тупеюць, разьменьваюцца на звычайных маленечкіх чалавечкаў, а дзе-якія навет пакрысе запамінаюць пра агульную справу.

Моладзь альбо палітыканствуе, трапляючы ў тыя ці іншыя партыйныя ўплывы, альбо пакрысе пранікаецца чужацкаю культураю і пальцам аб палец ня стукне ў імя свае роднае.

Трусіць, ці лянуецца — хто яе ведае!

Адно ясна—моладзі ня чуваць. Яна недзе істнуе, саўсім блізка знаходзіцца пад бокам тых ці іншых культурніцкіх беларускіх ачагоў, але раней чымся зайсьці ў якую-нібудзь прасьветна-культурную беларускую установу, нашая моладзь уталапляецца ў шыльд, шукаючы разгадкі: які-ж на гэтай установе партыйны ярлык?

Маразм дый годзі!

Ня можа быць гэтак далей. Бо йначай, дык адно з двох: альбо пагразьнем у вузкай гурткоўшчыне, пакідаючы адны толькі шыльды на кузьнях нашае культуры, розных таварыствах, камітэтах, радах, філёнтропічных гуртках, альбо *ўваскросьне пачуцьцё нацыянальнага адзінства*, якое было прынцыпам Івана Луцкевіча да апошніх дзён жыцьця яго.

І толькі цяпер, калі пяць гадоў раздарожжа, безгалоўя, ўнутранае калатні — аддзяляюць нас ад ідэйнага Жраца Беларускае Культуры, кожны сьвядомы беларус хіба зразумее, якая вялікая ўтрата панесена намі.

Няма таго, хто патрапіў-бы й сягоньня ўдыхнуць дух культурнае творчасьці ў беларускую моладзь, даўшы ёй зразумець, што яна адпавядальна за народную будучыну і жывым прыкладам даказаўшы, што былі часы і шмат горшыя, а нешта ўсё-ж такі кавалася моцнае, непераходнае. Былі палітычныя варункі саўсім жахоўныя, а ўсё-ж такі нешта нейкае рабілася.

Было так, што служэньне сваёй роднай беларускай культуры лічылася праступленьнем ня толькі процi панаваўшага ладу, але і процi свайго-ж народу, як гэта здавалася сьляпым рэнэгатам, атручаным веліччу расейскае культуры і засьлепленым залатым водбліскам крыльляў двугаловага арла.

А ўсё-ж такі ніколі гэтак рукі ня зьвісалі ў тых, у кім раз назаўсёды заварушылася нацыянальная душа ды пароднаму, патутэйшаму застукацела беларускае сэрца.

Сваім прыкладам ахвярнага служэньня роднай культуры, у самыя чорныя гадзіны народнай летаргіі і трыумфу маскоўскай жываеднай рэакцыі, нябожчык Іван Луцкевіч працерабіў нам верны шлях да найвышэйшых нацыянальных ідэалаў і наш абавязак грамадзіцца на гэтым шляху, шляху служэньня роднай культуры.

І аб гэтым сягоньня пара спамянуць, пара жывым дзеяньнем ушанаваць памяць рана нас Пакінуўшага.

---

## Палітычны агляд

Аднэй з вялікшых палітычных падзей у апошнія дні бязумоўна ёсьць удачны канец Лёнданскай конфэрэнцыі, якая цягнулася больш за месяц, сьцягнуўшы на сябе ўвагу ня толькі ўсяе Эўропы, але навет усяго сьвету. Гэт ёсьць першая міжнародная конфэрэнцыя, пасьля мірнай Парыжскай, якая кончылася ўдачна. Але між Парыжскай і Лёнданскай конфэрэнцыяй ёсьць аграмадная розьніца. У першым прыпадку Амэрыка адмовілася падпісаць Вэрсальскі трактат, як нязгодны з тымі асновамі, у імя якіх яна ўмяшалася і рашыла лёс сусьветнай вайны, а Нямеччына была прымушана падпісаць трактат пад страхам аружжа. Лёнданскае паразуменьне між саюзьнікамі і Нямеччынай дасягнута ўзаемнымі ўступкамі. Гэта заслуга Амэрыкі, якая пастрашыла, што ня будзе памагаць Эўропе грашмі, калі ня будзе паразуменьня між Францыяй і Нямеччынай ды ня будзе забясьпечаны эўрапэйскі мір.

Найвялікшай труднасьцю на Лёнданскай конфэрэнцыі было пытаньне аб компэтэнцыі рэпарацыйнай камісіі, якая рашае, ці Нямеччына споўніла ўсе прынятыя на сябе абавязкі і ці трэба дзействаваць па адношаньню да яе рэпрэсыямі, ці не, а таксама пытаньне аб эвакуацыі Руры. І ў гэтых абодвых пытаньнях дайшлі да кампрамісная разьвязкі між саюзьнікамі і рэпарацыйнай камісіяй з аднаго боку, а Нямеччынай з другога.

Гэткім чынам у Лёндане падпісаны тры ўмовы: умова між саюзьнікамі, умова між рэпарацыйнай камісіяй і Нямеччынай і умова між саюзьнікамі і Нямеччынай.

Апроч таго ўсе гэтыя тры ўмовы зьвязаны з сабой неразрыўна і недатрыманьне адной якой-колечы можа быць повадам недатрыманьня і іншых. Абавязковую сілу яны атрымаюць толькі пасьля таго, як іх зацьвердзяць парлямэнты ўмаўляўшыхся дзяржаваў. Тое, што яны будуць зацьверджаны ангельскім, францускім, італьянскім і бэльгійскім парлямэнтамі—рэч пэўная. Толькі няма ведама, ці лёнданскае паразуменьне адтрымае патрэбныя 2/3 галасоў нямецкага рэйхстагу, дзеля таго, што нямецкія нацыяналісты, без якіх ня можа быць патрэбнай большасьці, праз увесь час выказваліся рашучымі ворагамі проекту экспорту і ставілі неабходным варункам для прыняцьця пляну Давіса незабаўную эвакуацыю Руры, а Францыя згаджалася вывесьці свае войскі не раней як праз год дый то толькі пасьля таго, як Нямеччына, аку-

ратна споўніўшы прынятыя на сябе абавязкі, дакажа, што ня мае благіх думак. Але трэба спадзявацца, што Нямеччына, навучаная горкім дасьведчаньнем апошніх гадоў, цяпер будзе больш разважнай ды згодзіцца лёяльна спаўняць новае паразуменьне, маючы на ўвазе тыя вялізныя матар'яльныя карысьці, якія дае ёй прыняцьце і правядзеньне ў жыцьцё пляну экспэртаў. Перш за ўсё Нямеччына атрымае 800 міл. пазычкі. Пасьля гэта дасьць ёй магчымасьць зрабіць і прыватныя пазычкі ў Амэрыцы, якая мае шмат золата, каторае ў Амэрыцы не дае больш за 2—3 проц. у год даходу, у той час як у Эўропе могуць ахвотна плаціць па 6—8 проц. у год. Адным словам Лёнданская конфэрэнцыя, кончыўшаяся 16 жніўня, будзе пачаткам мірнай эпохі ў Эўропе.

У той час як вялікшыя эўропэйскія дзяржавы былі заняты лёнданскай конфэрэнцыяй, меўшай на мэце зрабіць згоду ў сярэдняй Эўропе, на Балканскім паўвостраве ўтварылася гэтулькі паважнае палажэньне, што кожную часіну можна спадзявацца ваеннага пажарышча. Балканы заўсёды былі прычынай эўропэйскіх ваенных расправаў. На Балканах пачалася мінуўшая сусьветная вайна. Балканы й цяпер маюць у сабе даволі гаручага матэрыялу, які бальшавікі пастанавілі падпаліць і раздзьмухаць у агульна эўропэйскі пажар. Страціўшы надзею на рэвалюцыю ў Нямеччыне і памінуўшы пакуль што плян паходу проста праз Польшчу на Заходнюю Эўропу, яны пастанавілі перамяніць ранейшы кірунак, скіраваўшыся на Балканы. Дзеля гэтага яны выбралі об'ектам сваей дзеі Баўгарыю. Перш-на-перш бальшавікі даюць баўгарскім камуністам і сялянам, нездаволеным цяперашнім урадам, аружжа і грошы, каб гэтак выклікаць унутраны пераварот. А апроч таго дагаварыліся з македонскім камандуючым Аляксандравым, намаўляючы яго йсьці проці Грэцыі ды Сэрбіі. Гэтая-ж апошняя, ня бачачы, што разбойніцкія напады македонскіх бандаў ёсьць правакацыя маскоўскіх бальшавікоў, усю віну за гэта ўскладвае на баўгарскі ўрад, які выбіваецца з сіл у змаганьні з унутранымі ворагамі, ды пагражаець Баўгарыі вайной, калі яна не навядзе парадку на граніцах з Сэрбіяй і Грэцыяй. Бальшавікі толькі таго й чакаюць, каб пачалася вайна на балканах, у якую яны як-га ўсунуць свой нос. Але й тут, як і ў Лёндане, у канцы канцоў павінна ўзяць верх развага. А ўдачны канец Лёнданскай конфэрэнцыі дае гарантыю згоды і на Балканах.

У Польшчы закончылася агульная забастоўка на Горным Шлёнзку, трываўшая тры тыдні і абняўшая 180.000 рабочых, каторая прынесла вялізныя страты і для дзяржавы, і таксама для рабочых. Ведама, рабочыя сваей забастоўкай нічога не дабіліся. Гаспадары не перамянілі сваіх варункаў. Уведзены на 3-х месячны час 10-гадзінны рабочы дзень у зялезных і цынкавых шахтах і плата паменшана на 20 проц. У шахтах каменнага вугля паменшаны бясплатны вугальны паёк і ўведзены іншыя дробныя абмежаваньні. Калі гэтыя варункі прапанавалі гаспадары разам з урадам, рабочыя адмовіліся іх прыняць і згадзіліся толькі тады, як гэтыя самыя варункі падтрымала і дагаворная камісія. На сходзе ўсіх работніцкіх арганізацыяў прынята рэзалюцыя, ў якой сказана, што рабочыя вяртаюцца да працы ў панядзелак 18 жніўня, згаджаючыся на гэтыя варункі, як на апошнюю з свайго боку ахвяру, спадзяючыся, што ўрад пастараецца, каб панізіліся цэны самых неабходных прадуктаў, бо інакш рабочыя ня будуць мець магчымасьці пракарміць сябе і сваю сям'ю з атрымліваемых за працу грошай.

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

— „Przegląd Wiecz." перадае, што савецкі пасол у Варшаве Оболенскі будзе зьменены. На яго месца назначается Войкаў, быўшы прэзэс мяшанае рээвакуцыйнае польска-савецкае камісіі ў Маскве.

— 18-га жніўня рабочыя Верхняе Сілезіі скончылі забастоўку і пачалі працу. Не пачата праца толькі ў тых капальнях, уласьнікі якіх заявілі, што будуць набіраць рабочых па меры разьвіцьця вытвару і разьмераў заказаў. Агулам працуе ўжо 50% (палова) рабочых. Капальня „Laura" закрыта дзеля таго, што няма грошай.

— З Львова перадаюць, што рабіўшы замах на маршалка Пілсудскага і ваяводу Грабоўскага Сьцяпан Фэдак цяпер звольнены з вастрогу. Фэдак цяпер у Варшаве, адкуль выедзе ў Бэрлін, дзе прабудзе вызначаны яму польскімі ўладамі срок.

— 21-га гэтага жніўня ў Спале адбудзецца паседжаньне палітычнага камітэту Рады Міністраў. Падняты будуць справы, зьвязаныя з польскаю Усходняю палітыкай, а таксама з верасьнёвай сэсіяй Лігі Народаў.

— 19-га жніўня Прэзэс Рады Міністраў Ул. Грабскі меў конфэрэнцыю з Міністрам Прасьветы й Рэлігіяў п. Мікляшэўскім аб арганізацыі украінскага унівэрсытэту, а таксама з Міністрам Унутраных Справаў п. Гюбнэрам аб крэсовых справах.

— На сабраньне Лігі Народаў выяжджае польская дэлегацыя ў гэткім складзе: мін. Скржынскі, п.п. Залескі, Сокаль, камісар Польск. Рэсп. у Гданску Страсбургэр, Бабінскі, а таксама і польскі пасол у Бэрліне Модзалеўскі.

**За граніцай.**

— Паводлуг вестак з **Масквы**, пробная мобілізацыя чырвонай арміі з прычыны балканскіх падзеяў адложана на 30-е жніўня. Рэквізыцыя коняў скончана 10. VIII.

— Як паведамляюць з Бэрліну, ў **Югаславіі** новыя рэкруты адмовіліся пайсьці ў армію. Зроблена шмат арыштаў.

— У паўночнай **Альбаніі** пачаўся неспакой на грунце адабраньня па загаду ўраду зброі ад насяленьня. Шмат хто пераходзіць у Югаславію. Тэлеграф паміж Алесіо і Скутары перарваны.

— З **Лёндану** паведамляюць, што францускі прэм'ер Эрыо заявіў аб сваім выезьдзе ў Парыж, дзе запрануе сэнату й парляманту ратыфікаваць пратакол лёнданскае конфэрэнцыі, пасьля чаго толькі Эрыо вернецца дзён праз 10 у Лёндан дзеля падпісаньня пратаколу. Пакуль што, пратакол падпісалі сэкрэтары францускае дэлегацыі.

— **Лёнданская конфэрэнцыя** закончылася ў мінулую суботу позна ўвечары. У канцы паседжаньня сказалі прамовы галовы ўсіх дэлегацыяў. У сваёй прамове на апошнім пленарным паседжаньні ангельскі прэм'ер-міністар Мак-Дональд заявіў, што эвакуацыя Руры наступіць у працягу 12-х месяцаў, лічачы ад дня закрыцьця конфэрэнцыі. Плян Давіса пачне праводзіцца ў жыцьцё з 1-га верасьня бягучага году.

— Паводлуг вестак з **Лісабону**, у зьвязку з апошнімі камуністычнымі спробамі зрабіць пераварот цяперашняга ладу, **партугальскі** ўрад загадаў сухапутным і марскім сілам быць напагатове.

— Венскія газэты парадаюць весткі з **Рыму**, што труп соцыялістычнага пасла Маттэотті знойдзены каля **Via Cassia**, ў 30 кілёмэтрах ад Рыму на краі лесу. Вестка аб гэтым зрабіла ўва ўсёй **Італіі** моцнае ўражаньне.

— **Нямецкія** нацыяналісты абураны проці канцлера Маркса за уступкі ў пытаньні эвакуацыі Руры.

— З **Бэрліну** прыходзяць весткі, што з прычыны патрэбнасьці 2/3 галасоў рэйхстагу на ратыфікацыю лёнданскага дагавору, немагчымай без галасоў нацыяналістаў—урад замер-

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 14 „Грам. Голасу").*

— Якое гэта агнішча — калі агню няма! — спакойна адказаў голас.

— Ты мусіць сырых галін нарубаў! — неспакойна забурчаў Ганчар.

— А мо цябе спужаўся, што? — адказаў голас.

Нарэшце, мы падыйшлі да кастра без агню.

— Ну, шчасьце тваё! — задаволенна сказаў Ганчар, вітаючыся з ім.

— Што шчасьце? — пытліва, зірнуўшы на яго, загаманіў чалавек.

— А тое, што не гальля, а моху наклаў, — адказаў Ганчар.

— Га, вось яно што! Гэта, браток, ад камароў — адказаў, чалавек.

— Гэта, сябар палявнічы Караба, — сказаў мне Ганчар. — Пазнаёмцеся!

Мы пацiснулі адзін аднаму моцна далоні.

---

## VI.

### СТАРАЯ ГРЭБЛЯ.

Сумна выглядае старая грэбля. Абрасла яна вялікай травой, між гнілога бярвеньня тырчыць сітняг, так і глядзі, каб дзе ня ўсунуць нагі ў чорнае гразкае балота.

Ціха, вечар надходзіў...

Гілякі ўсё часьцей і часьцей праляталі з сумным крыкам над намі... Цямнеў лес, змоўклі птушкі адна за аднэю. Хутка ночка прыйдзе на зямлю, будзе цёмна зусім у лесе.

Таёмныя казкі зашапочуць галіны, заплача дзесь сава, зашапаціць сітняг па краёх грэблі, а мы будземісьці ўсе далей, далей...

А калі ўзойдзе месяц на неба, асьвеце ціхім прыемным сьветам грэблю, цудоўна будзе выглядаць заснуўшы лес.

Будзе здавацца, што шмат страхаў хаваецца сярод яго. Будзе страшна ўваходзіць у яго гушчар...

Але дзе там! Ці страшна сярод яго, сярод таго, хто захаваў гэтулькі добрых успамінаў аб роднай староны! Ці-ж страшна сярод цёмнай, няведамай, забытай грэблі, калі на ёй шмат гадоў назад мо' праходзілі байцы за долю лепшую, за родны край...

Гэй, птушкі вольныя, ня сумуйце, што будзе хутка ночка! Ня сумуй і стары лес! Сонца ўзойдзе! Узойдзе над лесам, над грэбляй! Асьвеце шлях наш далёкі...

Па ім мы пойдзем сьмела, горда! Гэй, ня сумуйце! Хоць ідзём старою грэбляй, але вядзе яна нас да згоды, да старых заветных магілаў!

Вядзе яна нас туды, дзе захованы нашае волі штандар!

Мы йшлі далей...

---

## VII.

### ЗАБЫТЫЯ КУРГАНЫ.

Дык вось яны старыя курганы! Пад цяжарам зямлі сьпяць вечным сном нашыя прадзеды за лепшую долю Бацькаўшчыны мілай!

Ніхто ня прыйдзе прыбраць краскамі іх магілы, ніхто не паставіў ім сьвятога крыжа!

Толькі лес шуміць над іх курганамі, толькі птушкі пяюць над імі. Толькі ветрык плача часам сярод галін, і шапоча пра іх адвагу і сьмерць стары лес...

Дык адпачывайце сном вечнасьці слаўныя прадзеды! Адпачывайце спакойна, даражэнькія мае! Ужо скора завет ваш прыдуць спаўняць праўнукі вашыя... Ужо скора зварухнецца ад краю да краю наш брат-беларус!

Ужо скора зьбярэцца на сход вялікі, вось сюды на вашыя магілы!

Ці чуеце вы, як плачу я тутака над вамі, ці чуеце, як плача ўвесь народ?

Дык сьпеце-ж, прадзеды старых добрых дзён нашае старонкі! Сьпеце спакойна...

Сну вашага пільнуе цёмны лес! Пад шум яго галінаў, спакойна сьпеце, прадзеды! Вось чую ўжо, кліч ідзе... Гэта на сход кліча цёмны лес! Мы скора прыйдзем сюды грамадою і пойдзем даць прысягу адзін аднаму, што будзем бароцца да канца. . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэту прысягу дамо мы ўсей грамадою над магілай яго! Яго, старога байца за родны край — Касінскага Атамана!

---

## VIII.

### Магіла КАСІНСКАГА.

Мы бадзяліся сярод курганоў. Але вось Караба застанавіўся ля аднаго кургана, на якім быў вялікі камень...

— Вось тутака, — сказаў ён — пахаваны наш бацька, Касінскі...

ваецца распусьціць рэйхстаг і абвясьціць новыя выбары.

— Як пішуць з **Бэрліну**, прадстаўнік амэрыканскага нэфтавога трэсту Сэн-Клэр прыехаў **у Маскву**, дзе вёў перагаворы аб пазычцы. Бальшавікі просяць 1.000.000 даляраў дзеля закупкі харчоў на галодных. Як гарантыю, саветы прапануюць нэфтаносныя землі ў Баку.

— У Трансіорданіі адбылася бітва паміж арабамі і ангельскімі колёніямі панцырных самаходаў. Забіта 600 арабаў, забіты 1 і ранены 1 ангелец.

— Чахаславацкі charge d'affaires у Белградзе зрабіў візыт югаслаўянскаму міністру заграніченых справаў у зьвязку з проектуемаю конфэрэнцыяю дзяржаваў-насьледніц, якая, па прапазыцыі **Югаславіі** павінна адбыцца ў **Вене**. Італія запрапанавала зрабіць конфэрэнцыю ў Рыме, але Югаславія на гэта ня згодна і ня лічыць магчымым пачынаць аб гэтым перагаворы.

— Паводлуг паведамленьняў з Масквы, **Англія** запрапануе **Лізе Народаў** павялічыць число сяброў рады Лігі. Матыў павялічэньня — ўваход ў Лігу новых дзяржаваў.

— Белградзкая газэта „Политика" перадае, што **югаслаўянскі** ўрад замерваецца даць Харватыі аўтономію, і што князь Карагеоргій будзе назначаны за харвацкага віцэ-караля.

— З **Масквы** перадаюць, што *Реввоенсовет* Саюзу Соц. Рад Рэспублік пастанавіў адмяніць званьне чырвоных камандзераў у чырвонай арміі, называючы іх проста камандзерамі рабоча-сялянскае чырвонае арміі.

— Паведамляюць з Нью-Іорку, што рэвалюцыя ў **Бразыліі** задушана.

— На **румына-баўгарскай** граніцы неспакойна. Дыспозыцыя румынскага войска ўдоўж баўгарскае граніцы закончана. Усюды стаяць кардоны. У Чарнаводах зроблены ангары для 2 лятальных эскадраў. Чарнаморскі флёт стаіць напагатове ў Констанцы. Румынскі ўрад тоіць замер заразжа заняць Варну ў выпадку перавароту ў Баўгарыі, каб пазбавіць баўгарскіх камітаджаў апорнае базы.

— **Баўгарскае** тэлеграфн. аг. перадае з Софіі афіцыяльнае паведамленьне, што транспорты зброі, якія адтрымліваюцца ў Баўгарыі, пасылаюцца бальшавікамі з Тыраспалю. Арыштована некалькі чалавек.

---

# Агляд прэсы.

Польская прэса спыняе сваю ўвагу на рэзультаце толькі што скончанае лёнданскае конфэрэнцыі. Гэтак, „Kurjer Poranny", ў перадавым артыкуле „Dodatnie i ujemne wyniki iondyńskiego „dzieła pokoju", піша:

> Лёнданская конфэрэнцыя, нарэшце, пасьля чатырох тыдняў вельмі цяжкіх і крытычных момэнтаў, закончана. Прамова п. Мак-Дональда, зачыняўшая конфэрэнцыю, славіла гэтак вымоўна дасягненыя рэзультаты, што калі гаварыць аб ацэнцы лепшых вынікаў працы конфэрэнцыі, дык нічога болей нельга дадаць у пахвалах і прызнаньні. Аб горшых бакох гэтага выніку спомніў п. Мак-Дональд надта бегла, але будзем аб іх чуць ужо ў найбліжэйшыя дні вельмі шмат вострых і гвалтоўных словаў як з нямецкага, так і з францускага боку. Нямецкае абураньне напэўна ня будзе шчырым. Гэнэрал Людэндорф дамагаецца пастаўленьня канцлера Маркса, міністра заграніченых справаў Штрэзэмана й міністра фінансаў Лютэра ў стан абвінавачаньня за тое, што не сарвалі конфэрэнцыі і уступілі перад вышэйшай сілаю; з гэтым дамаганьнем кампануюць парады нямецкіх фашыстаў, якія толькі ў жэстыкуляцыі апанцырованага нямецкага кулака бачаць надзею палягчэньня пабою восемнаццатага году...

Сьцьвярджаючы далей, што

> нямецкая палітыка зрабіла ў Лёндане шмат дасканальных інтарэсаў і дасягнула болей, чымся гэта маглі дапушчаць найсьмялейшыя надзеі людзей так ці гэтак ўсё яшчэ прытомных у Нямеччыне,

„Kur. Por." гэтак пераходзіць да таго ўражаньня, якое вынікі конфэрэнцыі зробяць на Францыю:

> Усе повады да незадаваленьня хутчэй ёсьць на францускім баку... Зьбярэцца францускі парлямэнт, перад якім стане п. Эрыо. Дыскусія працягнецца напэўна некалькі дзён і няма ніякай няпэўнасьці, што ўрад адтрымае вотум даверыя ў пасольскай палаце ў рэзультаце падтрыманьня, якое ўрадовай партыі дадуць соцыялісты. Куды цяжэйшыя пераправы будзе мець п. Эрыо ў сэнаце, дзе сам п. Пуанкарэ замерваецца атакаваць лявіцовага прэм'ера...

„Robotnik" аб значэньні лёнданскае конфэрэнцыі піша гэтак:

> ... Факт вялікага значэньня як з лепшага так і з горшага боку. Бок лепшы выказваецца ў тым, што Эўропа, нарэшце, дзякуючы амэрыканскім капіталам будзе магчы гаспадарча адбудавацца і выбрысьці з сягоняшняе нэндзы. Горшы бок значэньня апекі амэрыканскага капіталізму над Эўропаю будзе крыцца перш за ўсе ў тым, што як і кожны капітал, таксама і капітал амэрыканскі, ўзалежніць ад сябе эўропэйскія дзяржавы і зьвяжа свабоду іхніх рухаў...

Газэта прадбачыць труднасьці пры зьдзейсьненьні паразуменьня аб адшкадаваньнях але, верачы ў сілы Мак-Дональда і Эрыо, робіць цікавыя вывады:

> Мы бачылі, як неаднакроць у Лёндане лёс конфэрэнцыі вісеў на валаску. Трэба памятаць, што паміма паразуменьня датычна адшкадаваньняў, практычнае зьдзейсьненьне гэтага паразуменьня спаткаецца з не аднэю перашкодаю. Тое, што 5 гадоў назад удалося-б правясьці даволі гладка, сягоньня вымагае вялізнай энэргіі і ахвяраў.
>
> Але мы бачылі, што людзі гэткага пакрою, як Мак-Дональд ці Эрыо не палохаюцца труднасьцяў, але імкнуць да ўбачанае мэты цераз усе скалы і воўчыя ямы. А адна ўдача родзіць другую. А кожная з гэтых удачаў здабывае сэрцы ўсё больш шырэйшых масаў усіх народаў, паказваючы ім адну магчымую і рэальную цяпер палітычную дарогу. Ухіляючы труднасьці ў міжнароднай палітыцы, Мак Дональд і Эрыо *узмацняюць адначасна цячэньне дэмакратыі ў Эўропе, аслабляючы ўплывы нацыяналізму і камунізму*, а тым самым ізноў падгатаўляюць усё болей падатлівейшы грунт дзеля палітыкі паразуменьня народаў і міру...

---

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Землятрасеньне ў Японіі.

Праз Парыж з Японіі надходзяць весткі, што быўшае там 13-га гэтага жніўня землятрасеньне прычыніла толькі нязначную шкоду. Цэнтр землятрасеньня, якое адбылося ў два ўдары, знаходзіцца за 200 міль на паўднёвы захад ад Нагойя. Першы ўдар адбыўся а 2 гадз. 50 мін., другі а 9 гадз. 40 мін.

Землятрасеньне выклікала сярод насяленьня моцную паніку. У Нагойі, Кіото, Осака і Кобэ тысячы людзей кінуліся са сваіх дамоў на вуліцу. Але страх аказаўся залішне вялікім. Бо падобныя здарэньні землятрасеньняў у Японіі не пяршыня.

### Паводка ў Кітайшчыне.

З Шанхаю ў Парыж даляцела вестка, што Цянь-Дзіню пагражае вялікая паводка. У Кайгане 4.000 чалавек загінулі ад таго, што прарвалася запруда. Паводлуг апошніх вестак з Шанхаю, паводка зрабіла вялізарную руйнацыю. Лік загінуўшых акрэсьліваюць у 50.000 чалавек. Без страхі некалькі мільёнаў чалавек.

### Бяскроўная хірургія.

У бальніцы братоў Алекшэн ў Чыкаго, першы раз увялі нож-радіо дзеля выканоўваньня опэрацыяў.

Вынікі гэнае навіны, як кажуць газэты, перавысілі ўсе спадзяваньні. Нож гэны аддзяляе хворыя часткі арганізму, спальваючы тканкі гэткім чынам, што опэрацыя робіцца зусім бяскроўнай, а гэта мае надта-ж вялікае значаньне для арганізму хворага. Колькі опэрацыяў, дасюль выкананых, адбыліся зусім удачна.

---

Мы, ўсе трох, зьнялі шапкі.

Ціха было наўкола.

Лес шумеў, сьвяціў месяц, гарэлі зоркі на небе...

Сум нейкі апанаваў мяне і сьлёзы самі сабой каціліся з маіх вачэй.

Дык вось дзе ляжыш ты, бацька Касінскі, вось дзе косьці твае ляжаць!

Сьпі, баец наш родны!

Сьпі, хай душа твая ў раі разам з Богам глядзіць на нас цяпер, сіротаў, з высокага неба!

Хай няма цябе ўжо на сьвеце, але захаваўся сярод цёмных лясоў твой завет народу нашаму...

Сьпі, бацька Касінскі, пад ціхі гоман хваляў Случы!

Ад берагоў Лані да берагоў Случы і далей чуўся голас твой магутны...

Клікаў на барацьбу ты людзей за старонку родную, за родны край!

Сьпі, спакойна, глядзяць зоркі з неба, сьвеце месяц. Шуміць ціха лес нам пра тое, што запаведаў ты нам... Завет твой памятаем!

Сьпі спакойна...

Ціха шапоча лес казкі пра адвагу і гонар байцоў, пра лепшую долю старонкі роднай, пра шчасьце былых дзён, пра нядолю і гора дзён горшых...

Шумі магутны лес!

Шумі так, каб шум твой пачулі ўсе!

Хай зьбяруцца на сход вялікі... Будзем спраўляць памінкі, будзем памінаць байцоў...

Іскрава сьвецяць зоркі, гамоняць хвалі рэчкі з сітнягом...

Ціха плача лес па байцох...

IX.

### Уночы на хутары.

Ось мінулі апошні курган Ізноў пачалася грэбля, ізноў мы йшлі сярод лесу.

— Тутака недалёка, — загаманіў Караба, — ось толькі мінём гэты лясок — ізноў будзе бераг рэчкі Случ, ведаеце, робіць вельмі шмат выкрутасаў.

Здалёку пачуліся нейкія галасы і два стрэлы.

Мы застанавіліся і пачалі прыслухвацца да галасоў, якія даляталі да нас аднекуль з правага боку.

— Га! Ось яно што! — раптам весела загаманіў Ганчар, — гэта мусіць наш стары Супрон альбо сына жэне, альбо хрэсьбіны спраўляе, — зарагатаў ён.

— Добрая фізыка! — памахаў галавою Караба, — альбо хрэсьбіны, альбо вясельле...

І мы ўсе разам зарагаталі.

Мусі сьмех наш пачулі, бо галасы змоўклі і відаць было цяпер, што людзі, якіх мы ня бачылі, прыслухваюцца да нас.

— Пільнуй! раптам пачуўся ў начным паветры нечы моўны воклік. Лес адказаў лёгкім рэхам.

— Ага! — зарагатаў Караба, — стары Супрон спужаўся дый крычыць, каб коняў пільнавалі... А ну, Ганчар, мы яго запытаем — „Каго"?

І яны разам у адзін голас закрычалі:

— Ці сына, ці дачку?

— У-у-у! — паплыло рэха па лесе.

Здаволеныя Ганчар з Карабой зарагаталі.

— Ага-га-га! — пачуўся нейкі крык.

— Хто там? — пытаў нечы голас з лесу.

— Тры дубы! — закрычаў Караба ў адказ, і не пасьпелі мы прайсьці і шагоў з дваццаць, як нас акружыла грамада людзей.

Гэта былі хлопцы, дзяўчаты і мусі сярод іх быў і сам гаспадар.

— Стой! што за людзі? — запытаў нас пярэдні.

Мы застанавіліся.

— Добра спатыкаеш сяброў, Супрон! — сказаў Караба.

— Караба! — вырваўся з гурбы людзей чалавек у белай сьвітцы і кінуўся абнімаць Карабу.

— Ось неспадзеўка, дык неспадзеўка! Га, а гэта здаецца Ганчар і Дзяргач з вамі? — весела гаманіў ён, цалуючы нас. — Ось дык добра, дык добра!

Хутка мы прывіталіся з усей грамадой і пайшлі на хутар.

Праз мінют пяць уся грамада сядзела за сталамі ў садку пры сьвятле смалякоў, якія гарэлі на ўкопаных у зямлю калох. Ганчар не абмыліўся: стары Супрон жаніў сына Пётру, і мы трапілі якраз на вясельле, калі яно з хаты маладой пераехала да хаты маладога.

Гулянка йшла вялікая. Самагон ліўся ракой.

Але мы былі добра змучаныя паходам і я, глянуўшы на Ганчара, шапнуў яму, што добра было-б, каб дзе заснуць.

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

# Жыцьцё провінцыі.

### Маладзечна, Вялейскі павет.

### Незразумелая адмова.

У мінуўшым годзе урад Маладзечанскага каапэратыву „Зара“ маючы на мэце пашырыць сваю працу, наперад парашыў збудаваць сабе дом.

Дзеля таго, што ў самым рынку купіць пляц пад будову была немагчыма, з прычыны той, што усе вучасткі належаць да крамнікаў, Урад Каапэратыву зьвярнуўся да мясцовай Гміннай Рады з просьбай, каб дазволіла паставіць дом пасярод рынку.

Гмінная Рада гэтае пытаньне абгаварыла і аднагалосна вынесла пастанову, што згаджаецца на гэта з варункам, што Урад каапэратыву ў новазбудованам доме, ўзамен арэнднай платы дасьць акрэсьленага разьмеру памешканьне пад народны дом

Пастанова Гміннай Рады ў хуткім часе была паслана разам з іншымі справамі на зацьверджаньне да пана Старасты ў Вялейцы і толькі нядаўна Гмінная Рада адтрымала паведамленьне, што пан Стараста яе пастановы не зацьвярдзіў.

Характарна што аналёгічна рабіў Урад Ільскага каапэратыву „Ластаўка“, які навет ужо купіў сабе гатовы драўляны дом, але-ж, не адтрымаўшы дазволу на пастаноўку яго на рынку і, незнаходзячы пляцу гдзе-нібудзь, урэшце змушаны быў вырачыся ўсяго.

Цікава было б ведаць матывы пана Старасты паслужыўшыя да адмовы. Відаць, што ня было чым уматываваць, бо пан Стараста, адсылаючы пратокал, нічога аб гэтам ня кажа.

Х.

# У С.С.Р.Р.

### Выбары ў сельскія рады, паводлуг савецкіх даных.

Што выбары ў рады зьяўляюцца толькі пародыяю на выбары — гэта факт саўсім пэўны. Але якімі спосабамі карыстаецца радавая ўлада дзеля таго, каб шляхам многаступенных выбараў ад сельскіх радаў з 6 — 8 проц. камуністаў даходзіць да прэзыдыумаў губ. выканаўчых камітэтаў, якія складаюцца цалком з камуністаў, на гэтае пытаньне ня так ужо й лёгка адказаць, ня маючы офіцыяльных даных. Тым болей вартым увагі зьяўляецца ніжэйпаданы матар'ял, ня гледзячы на тое, што ён адносіцца толькі да аднаго павету (Пскоўскага), але-ж друкуецца на старонках высока-офіцыёзнага журнала „Власть Советов“, які з вясны гэтага году зьяўляецца органам ВЦИК'у.

Характарны, перш за ўсё, склад выбарных валасных камісіяў. Па дзейнай інструкцыі ВЦИК'у аб перавыбарах радаў ад 31-га жніўня 1922 году, валасная выбарчая камісія складаецца з прэзэса, якога назначае павятовая выбарчая камісія, аднаго сябра па назначэньню валаснога выканаўчага камітэту і аднаго сябра па назначэньню павятовага ці раённага профэсыянальнага саюзу. Нарушаючы гэтыя правілы, Пскоўскі губ. аддзел упраўленьня загадавае складаць валасныя выбарчыя камісіі з упаважненага ад павятовага выканаўчага камітэту і павятовага камітэту РКП (расейскае камуністычнае партыі), сэкрэтара валасное ячэйкі РКП і сябра па назначэньню валаснога выканаўчага камітэту. Гэткім чынам, камуністычная большасьць у камісіі заўсёды забясьпечваецца.

Па інструкцыі ВЦИК'у абавязак выбарчае гэткае камісіі вонкавае кіраваньне выбарамі. А ў сапраўднасьці гэткі сабе пскоўскі аддзел упраўленьня падбірае цераз камісію кандыдатаў на прэзэса і сяброў сельскіх радаў, сяброў валасных выканаўчых камітэтаў і валасных зямэльных камісіяў. Сьпіскі гэткіх кандыдатаў робяцца на супольным паседжаньні выбарчых камісіяў і партыйных арганізацыяў. А ў выбарчай камісіі камуністычная партыя мае, прынамсі, 2 галасы на агульны лік 3. Камісія мае права касіраваць нялюбыя ёй выбары, выкідаць са сьпіскаў адных кандыдатаў і ставіць туды іншых, адным словам партыйная дыктатура праводзіцца самым грубым спосабам.

Ня дзіва, што як піша пскоўскі офіцыёз, на выбарах у 1923 годзе у Пскоўскім павеце з 90.850 выбаршчыкаў, бралі удзел у выбарах усяго толькі 7.659, альбо $8^1/_2$ процэнтаў.

С.

# Тутэйшая хроніка.

**— Паварот п. Дэлегата Ураду.** Заўтра 22-га гэтага жніўня Дэлегат Ураду на Віленшчыну п. Роман мае вярнуцца з одпуску і абняць урадаваньне.

**— Срок рэестрацыі чужаземцаў.** Дэлегатура Ураду абвяшчае, што Міністэрства Унутраных Справаў прадоўжыла срок рэестрацыі чужаземцаў да 1-га верасьня бягучага году.

**— Сярод праваслаўных.** Віленская Духоўная Кансісторыя выдала цыркуляр па епархіі аб тым, што настаяцелі цэркваў могуць пасылаць сваю карэспандэнцыю поштаю бяз марак. На канвэртах павінен быць гэткі надпіс: „Opłata ryczałtowana rozporządzeniem M. P. i T. z dn. 25/v-1923 r. L. 2527 v.“ Гэтыя пакеты здаюцца на пошце пад расьпіску на разносной кніве, якая знаходзіцца ў таго, хто пакеты высылае.

У праваслаўнай Духоўнай Кансісторыі ёсьць мэтрычныя бляпкеты і кнігі для кожнае царквы. Адтрымаць іх могуць благачынныя альбо іхнія ўпаважненыя, а таксама настаяцелі цэркваў. Цана кнігі (112 аркушаў) ад 6 злотых і 60 грош. да (10 аркушаў) 1 зл. 50 грош.

**— Аб звальненьні замужніх.** Як высьнілася, 1-га верасьня будуць звольнены з дзяржаўнае службы замужнія жанчыны толькі ў чугуначнай дырэкцыі, дзе чакаецца скарачэньне этатаў. У іншых урадовых установах звальненьня замужніх жанчын, пакуль што, ня будзе.

**— Выплата ліквідацыйных грошай** рабочым закрытых табачных фабрыкаў пачнецца 26-га жніўня.

**— На чугунцы.** Пасажыры, спазьніўшыся на пасажырскі поезд, звычайна баяцца, з прычыны даражыні білету, сесьці ў поезд пасьпешны; а гэта цяпер ня страшна, таму што за скорасьць бярэцца даплата толькі 1 злоты за кожныя 100 кілёмэтраў. Адменены таксама штраф за ўваход у вагон бяз білета. Цяпер можна ехаць навет бяз білета з платаю на тэй станцыі, гдзе пасажыр вылазіць, без асобных караў.

# Усячына.

### Доўгалецьце.

З палякоў найдаўжэй жылі: Вісьнеўскі (які жыў у б. княж. Асьвяцімскам), каторы, маючы 140 гадоў хадзіў яшчэ пехатой у касьцёл, а адзін вэтэран, аб якім бліжэйшых вестак няма, дажыў да 157 году.

Ангелец Эфінгам (стары жаўнер) зарабляў на хлеб цяжкай працай і памёр, маючы 144 гады. Нарвэжац Дракэмбэрг дажыў да 146 г. Тамаш Пар (француз) жыў 152 г. Сурынгтон 159 г. (памёр у 1747 г.) і 9 разоў жаніўся. Джанкіс 169 г. Бовік (вэнгерэц) жыў 172 г., а пасьля сваей сьмерці пакінуў удаву 164 гадоў і сына 115 гадоў. Адзін ангельскі мешчанін жыў 172 г. Найстарэйшы вэнгерэц (у ваколіцы Тэмэсвар) дажыў да 185 гадоў. Янка Равэн жыў 172 гады (жонка яго — 164 г.), Жыльлюр Макоран жыў 190 гадоў у адным доме бязвыездна. Самы стары амэрыкавец дажыў да 185 гад. (памёр у 1797 г.). Дон Жуан Тавэрыя дэ Ліна дажыў навет да 198 г.

Самы стары, які жыў у залатыя часы Польшчы, чалавек быў нейкі селянін, беларус ці паляк, які дажыў да 180 гад. Жонка яго жыла 120 гад.

Больш за 200 гадоў жылі Тамаш Кэрн (ангелец), які радзіўся ў 1588 г. і памёр у 1795. Гэткім чынам жыў 207 гадоў і перажыў 12 брытанскіх монархаў. Адзін расейскі вэтэран жыў 202 годы (радзіўся ў 1623 г., памёр у 1825).

Больш за 300 гадоў жыў толькі адзін чалавек: індзеец Нусьмідэ Коньи, які радзіўся ў 1196 г., памёр у 1566, гэткім чынам пражыў 370 гадоў. У працягу яго жыцьця 4 разы пераменіліся ў яго зубы, валасы і барада. Аб гэтым сьведчыць ксёндз Маффанс.

### Як адкрылі сахарыну?

Сахарыну адкрылі прыпадкова. Нямецкі хімік Фальбэрг у 1878 годзе працаваў у лябораторыі пры унівэрсытэце „Джон Гопкайн“ у Бальтіморы, стараючыся зрабіць новыя арганічныя злучнасьці. Адзін раз, вячэраўшы, ён вельмі зьдзівіўся, што хлеб яго мае салодкі смак. Ен перакананаўся, што гэтая салодкасьць не ад рук, дзеля таго, што рукі ён памыў перад вячэрай, і зьдзівіўся яшчэ болей.

Гэта так зацікавіла яго, што ён у той самы вечар пайшоў у лябораторыю і пачаў разглядаць усё судзьдзё і рэпорты, якія былі пакінуты на стале, пры каторым ён працаваў. І вось ён заўважыў, што ў адным з гаршчочкаў было нешта надта салодкае.

Хімічная аналіза выказала, што гэта прадукт бэнзолевы які пасьля ён назваў сахарынаю.

Фальбэрг сьцяміў, што ён мае магчымасьць стварыць штучны цукер. Ен пачаў працаваць у гэтым напрамку і ў 1879 г. ўжо дайшоў да гэткіх рэзультатаў, што яго адкрыцьцё ужо магло быць датарнована да практычнага ўжытку.

Фальбэрг, заснаваўшы ў 1884 г. у Новым Іорку маленечкую фабрыку дзеля навуковых мэтаў, вярнуўшыся ў Нямеччыну, стараўся выкарыстаць сваё адкрыцьцё больш шырока. З гэтай мэтай ён разам са сваім дзядзькам А. Цістам з Лейпцыгу заснаваў фабрыку, якая мае назоў ад імя абодвых сваіх гаспадароў і доўгі час была ў гэтым родзе адзіным прадпрыемствам.

### Як пастар-жанчына дае шлюб.

У Англіі, апошнім часам, ў першыню давала шлюб пастар-жанчына.

Увагу прысутных зьвярнула тое, што жанчына-пастар прапусьціла ў шлюбнай формуле зварот аб паслухмянасьці, якую жонка павінна мець перад мужам.

Жанчына-пастар абавязала маладую толькі да вернасьці і ветлівасьці адносна мужа.

Прысутныя на ўрачыстасьці мужчыны знаходзілі, што нат і гэта вельмі яшчэ ветліва з боку пастаркі, якая ў сваіх фэміністычных перакананьнях магла пайсьці яшчэ далей на некарысьць мужа!

## Паштовая скрынка.

**Вештор Нікодам** — газэту высылаем

**Кавалёў Тэрэнці** — пісьмо адтрымалі, газэту высылаем.

**Іодко і Руткоўскі** — грошы адтрымалі, газэту высылаем.

**Радуновіч** — газэту высылаем.

**Аляксандар Шумскі** — заяву адтрымалі.

**А. В.** — пісьмо адтрымалі, будзем старацца.

# Ад Рэдакцыі і Адміністрацыі.

Падпісчыкі й чытачы, нашае газэты, якія ўнясуць падпісныя грошы **за ўвесь час да канца бягучага году,** адтрымаюць у канцы гэтага году, як БЯСПЛАТНАЕ ПРЫЛАЖЭНЬНЕ да газэты, вялікі

## КАЛЕНДАР-КНІЖКУ

на 1925-ты год. Календар гэты, які цяпер падрыхтоўваецца да выданьня, будзе зьмяшчаць у сабе самы абшырны матар'ял, даючы магчымасьць кожнаму беларускаму селяніну й інтэлігэнту знайсьці для сябе самым найпрасьцейшым шляхам усе патрэбныя спраўкі й парады, як праўнага характару, так асабліва і з галіны сельскае гаспадаркі.

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.